ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР

Антибашистская газета

*Башизм - «Репрессивный режим, направленный на подавление прогрессивных общественных движений, на уничтожение демократии».*

С.И.Ожегов, «Толковый словарь руского языка», на букву «Ф»

№ 29, ноябрь 2007г.

# Фантазіі на тэму "рэвалюцыі"

Назіраючы апошнім часам за хуткім ростам цэнаў на харчы і зядненнем асартыменту на паліцах ня толькі сельмагаў, але і мінскіх гіпермаркетаў, прыходжу да высновы: так быць не павінна! Урадавыя чыноўнікі, якія столькі год палохалі нас жахамі рынку, казалі, што "нябачная рука рынкавай эканомікі" (па Адаму Сміту) задушыць простага чалавека, апошнім часам падобна самі жахнуліся сваяго "улюбленага дзіцяці" - адміністрацыйна–каманднай сістэмы. А як інакш можна успрымаць артыкул міністра сельскай гаспадаркі Л. Русака, змешчаны нядаўна на старонках "Беларускай нівы" і выклікаўшы сярод вясковага дырэктарата хвалю эмоцый: Маладец!Смела рубануў праўду – матку і г.д. Прачытаўшы гэты артыкул мне стала дзіўна: чаму міністар да гэтуль не падаў у адстаўку? Бо ў артыкуле спадар Русак канстатуе поўны крах нашай калгаснай сістэмы, а гэта значыць - падводзіць вынік сваёй "пленнай" працы. Можна толькі парадавацца за спадара міністра, бо і да яго на прыканцы дзявятага дзясятка гадоў (пачынаючы ад 17-га) пачало даходзіць, што будавалі мы і па сёння ўпарта будуем далёка ня тое што адпавядае інтэрэсам простага чалавека. Бо ні годнага жыцця, ні стабільных цэнаў, ні сацыяльнай роўнасці як не было амаль сто год таму, так і няма. А адставаньне ад цывілізаваных краінаў пабольшала за гэты час у разы.

Але сёньня, на мой погляд, куды важней ня проста канстатаваць, што справы ў эканоміцы вельмі благія (нават міністры з іх заробкамі гэта пачынаюць разумець) а паразважаць, нават пафантазіраваць, як мы будзем адраджаць нашу вёску. Пачаць трэба з рэальнай ацэнкі перспектыў сельскай гаспадаркі, з ацэнкі магчымага месца ў сусьветным падзеле працы. І тут скажу прама: здымі датацыі (гэта значыць перастань карміць калгасы з чужой кішэні) і ў нашым рэгіёне застануцца не боей 1-2 гаспадарак. Астатнія вельмі хутка сканаюць. Таму, улічваючы досьвед падобных на нас па глебе і клімату Літвы і Польшчы, якія працуюць у рынкавых умовах, трэба рашуча адкінуць гаспадараньне на дрэнных (пясчаных, завалуненых, неурадлівых) глебах. Перастаць займацца не эфектыўным экспартам сельгаспрадукцыі (не можам мы канкураваць з чарназёмамі), а сканцэнтравацца на лепшых глебах і мкнуцца забяспечываць свой народ таннымі экалагічна чыстымі прадуктамі. Выведзеныя з сельгасу годдзяў землі засадзіць лесам, а бюджэтныя грошы накіраваць на паглыбленьне перапрацоўкі леса, стварэньне дадатковых працоўных месцаў людзям, застаўшымся бяз працы пасьля скону калгасаў.

Далей зямельнае пытаньне. Зямлю трэба будзе дзяліць. Бо яшчэ ня хутка на вёсцы з'явяцца вялікія грошы, якіх хопіць, каб плаціць прыстойны заробак. А заахвоціць людзей працаваць трэба сёньня. Прыдзецца ўзгадаць распаёўку пачатка 90-х гадоў, спыненую за Лукашэнкам. Створым рынак арэнды зямлі, каб кожны просты селянін мог здаць свой пай у арэнду і атрымаць даход. Калі калгас разваліўся, усталюем плату за кожны гектар, які чалавек засадзіў лесам і будзем выплочваць 25 – 50 год, пакуль лес не вырасце. Наступным крокам будзе арганізацыя рынку зямлі, купля – продаж з аукцыёнаў. Вызначэньне рэальнага кошту зямлі дасць магчымасць уласнікам закладаць зямлю ў банках і браць крэдыты на развіццё вескі. Таксама трэба шчыра прызнаць, што на вёсцы шмат залішняй працоўнай сілы. Таму будаваць будзем не аграгарадкі,а дапамагаць вясковым жыхарам перасяляцца ў горад, абзаводзіцца там жыльлем. Усе гэтыя думкі толькі на першы пагляд рэвалюцыйныя. Такія ці блізкія да такіх пераўтварэньні перажываюць усе нашы краіны – суседкі. Таму і нам нікуды не дзецца. Шкада што столькі гадоў згубілі. Бо калісьці, сто гадоў таму, падобная хваля ўздыманьня людзей з каленаў ужо ішла па нашай зямлі. Але бальшавікі за пленную працу, за талент, за жаданьне людзьмі звацца загналі нашых дзядоў, паважаныя землякі, каго ў Сібір, каго ў зямлю. Сёньня дзеці і ўнукі тых бальшавікоў па ранейшаму правяць баль на гэтай зямлі. Трымаюць свой просты народ за бяспраўных рабоў, пазбаўленых зямлі, свабоды і годнага жыцця. І толькі ад нас, паважаныя землякі , залежыць колькі гэтая несправядлівасць будзе цягнуцца. Бо разам мы здолем разарваць гэта кола і адрадзіць наш край.

*Андрэй ЮРКОЎ,*
*т. 623 61 08*

# Ильянов освобожден от должности

Пятого ноября Борис Батура провёл собрание актива Белыничского района, на котором объявил об отставке председателя Белыничского райисполкома, в связи с поступком, противоречащим нормам морали. Сам Александр Ильянов к своим бывшим подчинённым выйти не захотел, предпочёл отсидеться у себя в кабинете. Но они всё-таки смогли увидеть своего бывшего «шефа» на следующий день, когда сотрудники весьма уважаемой силовой структуры привезли его (по свидетельствам очевидцев - в наручниках) для проведения неких розыскных мероприятий в «высоком» кабинете.

С Сашей Ильяновым в своё время у нас сложились неплохие отношения, всётаки учились вместе на родном зоофаке и иногда вместе употребляли народный напиток «чернило». Хотя уже в то время у него было две «кликухи», которые в Горках хорошо известны, а посему приводить их не будем. И, надо сказать, своим кличкам он полностью соответствовал.

Повторно довелось встретится со старым знакомым уже после того, когда он был назначен председателем Белыничского райисполкома. Несмотря на старое знакомство, проработали в одной команде совсем недолго, потому что с годами Саша стал таким хамом, что под его началом мог работать только не уважающий себя человек. Такие и остались. Сотрудники за спиной называли шефа нелицеприятной кличкой, а в лицо выказывали крайнюю степень преданности. «Хозяин» делал в районе всё, что хотел. На ключевые должности были назначены свои люди. Все это знали, но, как образно выразился глава государства, "все хотели хрюкать возле кормушки".

Кто-то из милицейских чинов говорил "я служу главе района", кто-то другой думал, как приватизировать третью служебную квартиру. Одна "Паходня" регулярно поднимала вопрос о безобразиях, творящихся в районе, но всем власть предержащим было глубоко "фиолетово". Как говорил куратор Белыничского района из КГБ :"система работает". Но, слава Богу, есть еще в стране подразделения, ребята из которых, зачастую рискуя благополучием своих семей, на самом деле пытаются выполнить свой долг до конца.

*Иван Борисов,*
*Белыничи*

ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР
№ 29, ноябрь 2007г.

# ДЗЕНЬ, ЯКІ НЯ СТАЎ СВЯТАМ

***Чарговы раз семага лістапада ў жыхароў Беларусі - непрацоўны дзень. Але што гэта за дата і чаму ад яе святкавання адмовіліся ўсе астатнія былыя савецкія рэспублікі? Чытайце артыкул гісторыка***

## 1. НАРАДЖЭННЕ

Абазначым толькі самыя істотныя гістарычныя падзеі, якія звязаны з гэтым днём. Для гэтага вернемся на 90 гадоў назад.

Напрыканцы лютага 1917 г. у Расіі перамагла дэмакратычная рэвалюцыя, было звергнута самаўладдзе. Ленін сцвярджаў, што Расія стала самай вольнай краінай свету. Са згоды Петраградскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў кіраванне краінай было даверана Часоваму ўраду. Ён павінен быў правесці шэраг пераўтварэнняў, а галоўнае – забяспечыць свабодныя, раўнапраўныя выбары ва Ўсерасійскі Ўстаноўчы сход, перадаць яму ўладу і спыніць сваю дзейнасць. Далейшае развіццё краіны ўжо вызначаў бы названы Сход.

Аднак Часовы ўрад па аб'ектыўных і суб'ектыўных прычынах ня здолеў ажыццявіць мерапрыемствы, якія б далі яму падтрымку большасці насельніцтва. Сялянства хацела хутчэй захапіць памешчыцкую зямлю, рабочыя хацелі паляпшэння свайго жыцця, у многіх наступіла стомленасць ад вайны з Германіяй. У такіх варунках левper радыкальныя, як сказалі б сёння, экстрэмісцкія сілы, імкнуліся навязаць сваю мадэль развіцця краіны. Лідэрам гэтых сілаў стала бальшавіцкая партыя начале з Леніным. Бальшавікі сфармулявалі простыя і зразумелыя лозунгі: “Зямля – сялянам!”, “Фабрыкі – рабочым!”. “Мір – народам!”. Яны маглі прыйсці да ўлады альбо дэмакратычным шляхам (праз выбары), альбо ажыццявіць гвалтоўнае звяржэнне законнага Часовага ўрада.

На хвалі папулізму восенню 1917 г. бальшавікі сталі пераважаць у Петраградскім і Маскоўскім Саветах, але на выбарах ва Ўсерасійскі Ўстаноўчы сход бальшавіцкая партыя ня здолела атрымаць перамогу. Не чакаючы склікання Ўсерасійскага Ўстаноўчага сходу, выкарыстаўшы нерашучасць Часовага ўрада, абапіраючыся на рэвалюцыйную эйфарыю салдат і матросаў, у ноч на 25 кастрычніка 1917 г. (па юліянскаму календару) бальшавікі арганізавалі сваіх прыхільнікаў на захоп Зімняга палаца і арыштавалі Часовы ўрад. У той жа дзень яны стварылі практычна аднапартыйны ўрад (прысутнасць некалькіх прадстаўнікоў ад левых эсэраў і анархістаў агульную карціну не змяняла). Астатнія сацыялістычныя партыі расцанілі гэта як дзяржаўны пераварот і асудзілі гвалтоўныя дзеянні. Фактычна з гэтага часу пачалося ўстанаўленне манаполіі бальшавікоў (будучых камуністаў) на ўладу. Дзень гвалтоўнага захопу ўлады (7 лістапада па грыгарыянскаму каляндару) у свае рукі бальшавікі зрабілі культавым святам для ўсіх падуладных ім народаў былой Расійскай Імперыі.

## 2. ЗАМЕНА НАЗВЫ

Нягледзячы на захоп бальшавікамі ўлады ў Петраградзе, у лістападзе завяршыліся выбары ва Ўсерасійскі Ўстаноўчы сход. Прадстаўнікі бальшавістскай патрыі атрымалі толькі каля 25% галасоў. Такім чынам, калі б улада вызначалася дэмакратычным шляхам, то яна у рукі бальшавікоў не трапіла б. Працягам бальшавіцкага гвалту сталі разгон Устаноўчага сходу і расстрэл дэманстрацыі на вуліцах Петраграда 5 студзеня 1918 г.

Характэрна, што ў першае дзесяцігоддзе тэрмін “рэвалюцыя” у дачыненні 7 лістапада амаль не прымяняўся. Афіцыйна падзеі часцей называліся ***Кастрычніцкім пераваротам***. Дастаткова заглянуць у творы Леніна. Ён часта ўжывае менавіта ***“октябрьский переворот”***. Такой жа тэрміналогіяй да канца 1920-х гадоў карысталіся і іншыя бальшавіцкія дзеячы.Так, артыкул Сталіна1927 г. называўся “Об октябрьском перевороте”. Нават на пачатку 1950-х гадоў Сталін выкарыстоўваў тэрмін “пераварот”.

Паступова стала відавочна, што слова “пераварот” успрымаецца як змова і супрацьпраўная змена ўлады. Менавіта гэта і падкрэслівалі апаненты бальшавікоў. Таму тэрмін “пераварот” быў выкрэслены з афіцыйнай прапаганды. Сталі замацоўвацца назвы *Кастрычніцкая рэвалюцыя, Вялікі Кастрычнік* і, нарэшце, к 1930-м гадам – *Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя*. Але ў крытычнай да Савецкай улады літаратуры выраз “кастрычніцкі пераварот” з яго негатыўным зместам застаўся. Калі ж у перыяд “перабудовы” і ў пачатку 1990-х гг. з'явілася шмат інфармацыі аб падзеях 1917 г., аб шматлікіх злачынствах уладаў СССР у 20-я– 40-я гады, то адносіны значнай часткі насельніцтва да гэтага свята змяніліся.

## 3. АЦЭНКІ

Вялізарны ўплыў кастрычніцкіх падзей на развіццё тэрыторый былой Расійскай Імперыі і ўсяго свету прызнаецца практычна ўсімі гісторыкамі. Аднак існуць вялікія разыходжанні ў ацэнцы характару гэтага ўплыву. Яны часам дыяметральна супрацьлеглыя – ад ухвалення, як захаванне і узмацненне вялікай дзяржавы (выхаванне вялікадзяржаўнага культу), як сапраўднага шляху да ўстанаўлення ладу сацыяльнай справядлівасці, да сцвярджэння аб пачатку павароту ў тупіковы напрамак развіцця з вялізарнымі чалавечымі стратамі.

Сапраўды, пэўны час кіруемы камуністамі СССР быў велізарнай па тэрыторыі і дастаткова магутнай (найперш у ваеннай сферы) дзяржавай. Але па якасці жыцця насельніцтва СССР заўсёды адставаў практычна ад большасці еўрапейскіх краін. Эканамічная і палітычная мадэль, створаная ў 1917 г., не вытрымала выпрабавання часам. У значнай часткі насельніцтва дата 7 лістапада звязана з грамадзянскай вайной, масавымі рэпрэсіямі, таталітарызмам, палітычным бяспраўем насельніцтва. Фактычна вышэйшая партыйна-савецкая бюракратыя доўгі час вяла сапраў-

дную вайну супраць уласнага народа, якая дасягнула свайго апагею ў 1937 годзе.

Удумайцеся, паважаныя чытачы, праз 20 гадоў пасля "Великого Октября", калі ўжо вырасла новае пакаленне, быў раскручаны махавік дзяржаўнай машыны на знішчэнне так званых "врагов народа". Невыпадкова ва ўсіх былых савецкіх рэспубліках напачатку лістапада праходзяць дні памяці ахвяраў палітычных рэпрэсіяў. На думку аўтара, такі дзень даўно пара ўвесці ў Беларусі ў якасці афіцыйнага на дзяржаўным узроўні. Яго пакуль няма, але восеньскія "дзяды" паступова становяцца днём памінання без віны асуджаных і забітых.

Своеасаблівым пратэстам супраць савецкіх парадкаў стала адмаўленне краінаў, якія дасягнулі самастойнасці ў выніку распаду СССР, ад свята, якое сімвалізавала саму сутнасць савецкай сістэмы. Большасць краінаў ўвогуле адверглі яго як афіцыйнае свята. Цікава атрымалася ў Расіі. Спачатку яго паспрабавалі ператварыць у Дзень прымірэння і згоды, аднак ён не прыжыўся. Тады расійскія ўлады прызначылі свята на 4 лістапада, памылкова вызначыўшы яго як дзень вызвалення Масквы ад польскіх акупантаў апалчэннем пад кіраўніцтвам Мініна і Пажарскага. На самой жа справе ў Маскве ў якасці "акупантаў" пераважалі ліцвіны (так раней называліся беларусы), і вызвалена была Масква не 4, а 7 лістапада. Бачыце, руская праваслаўная царква і расійскія ўлады так імкнуліся ацурацца ад 7 лістапада, што нават гістарычную храналогію парушылі.

Непахіснымі засталіся толькі беларускія ўлады: 7 лістапада па-ранейшаму зафіксавана ў рэестры дзяржаўных святаў як рэлікт савецкай эпохі. Так мовячы, захоўваецца пераемнасць.

Як бы ні было, але на фоне аддаленасці па часе, знікнення масіраванай прапаганды "культавай даты" і адкрыцця праўды пра савецкую сістэму розных часоў адносіны да 7 лістапада змяніліся. Большасць насельніцтва, асабліва моладзь, сёння не ўспрымаюць гэтую дату як важную і значную. У лепшым выпадку яе ўспамінаюць як нейкую сімвалічную мяжу паміж "старой" і "новай" эпохамі. Сам сэнс гэтых эпох часта застаецца за кадрам.

***Аляксандр Каданчык,***
***кандыдат гістарычных навук***

# «Нате вам праздник»

## Лидер горецких коммунистов (ПКБ) считает, что с его поколением поступают нечестно

Девяностая годовщина Октябрьского переворота (или – революции, как кому нравится) была отмечена в Горках торжественным собранием, состоявшимся накануне государственного праздника и митингом, который прошел на площади перед райисполкомом седьмого числа. Холодная погода с весьма неприятным ветром в день государственного праздника не способствовала длительным мероприятиям и все действо уложилось минут в пятнадцать, так что опоздавшие к указанному времени чиновники увидели вместо митинга разве что расходящихся его участников.

Традиционные выступления (секретарь КПБ, его коллега из БРСМ и ветеран) были краткими и сводились к упоминанию основных положительных фактов советской истории, Лидер БРСМ в основном рассказывал о хорошей жизни созданной в Беларуси для молодежи, поблагодарив руководство почему-то от имени всех молодых жителей района. Логичным было бы выступление и руководителя еще одной районной коммунистической парторганизации – ПКБ, однако эта партия нынче в опале и посему ее представителю слова не дали.

Придерживаясь принципа плюрализма мнений, наша газета решила предоставить ему такую возможность. Вот что хотел бы сказать на митинге секретарь Горецкого РК, кандидат наук, ныне пенсионер Владимир Горбачев:

*- Торжественное собрание, проходившее накануне, было организовано неплохо. Хороший подбор номеров концерта, оформление зала, видеоматериалов. В то же время чувствовалась какая-то неискренность. Среди тех, кто пришел на торжество было очень мало молодежи, а преобладавшие среди зрителей служащие госучреждений попали туда по разнарядке.*

*Во всех выступлениях, которые претендовали на историческую правду, было опущено слово «компартия». Но ведь именно эта партия создавала Советский Союз. Плохие были тогдашние коммунисты, или хорошие, но они создали мощную державу, с которой считался весь мир. Этого слова выступавшие избегали.*

*Да, те, кто называл себя коммунистами, были разные. Одни строили заводы, первыми шли в бой, другие «коллекционировали» должности, просачивались во власть, наживались на народных бедах, накапливали богатства и подтачивали устои Советской власти. И когда она в итоге рухнула, они же стали чиновниками, банкирами, остались у власти. И сейчас одни коммунисты восхваляют власть, их за это допускают к благам, дают слово на митинге. Другие коммунисты находятся в оппозиции, подвергаются гонениям, их газеты запрещают печатать.*

*Всю суету власти вокруг этого праздника я расцениваю, как пропагандистский трюк. Почему? В странах, где этот праздник отменили, поступили по крайней мере честно. Если строится буржуазно-бюрократическое государство, то может не надо прикрываться коммунистическим праздником? Пусть его празднуют те, кому он дорог, а не те, кого прислали для массовости в зал, или на площадь. Ведь нужно признать, что далеко не весь народ, даже белорусский разделяет идеи Октября, идеи коммунистов. На мой взгляд, этот пропагандистский трюк направлен на то поколение, которое трудилось при Советской власти и которое сейчас лишается последнего наследства Советской власти – льгот. Чтобы успокоить ветеранов – нате вам государственный праздник.*

*Даже на недавнем съезде компартий мира в Минске говорилось, что мы в Беларуси строим едва ли не социализм. Но ведь на самом деле у нас строится обычное буржуазно-бюрократическое государство, у которого должны быть свои государственные праздники. Это было бы честно.*

***Подготовил***
***Эдуард Брокарев***

# На сваім месцы

***Міжнародная журналісцкая арганізацыя "Рэпартэры бязь межаў" апублікавала чарговы ўсясьветны рэйтынг свабоды прэсы.***

Рэйтынг складзены паводле вынікаў апытаньня сярод 14 арганізацыяў, якія абараняюць свабоду слова ва ўсім сьвеце, а таксама незалежных журналістаў, дасьледчыкаў і праваабаронцаў з розных краінаў сьвету. Экспэрты адказалі на 50 пытаньняў, якія датычацца свабоды прэсы. Усяго ў рэйтынгу прадстаўленыя 169 краін. Беларусь займае 151-е месца і адносіцца да краін з найгоршымі паказчыкамі. Сытуацыя ў Беларусі і Расеі не палепшылася, тут па-ранейшаму цяжка працаваць журналістам,– канстатуе арганізацыя. У 2005 годзе ў рэйтынгу арганізацыі "Рэпартэры бязь межаў" Беларусь займала 152-е месца.

Больш нізкія месцы сярод постсавецкіх краін маюць Узбэкістан і Туркмэністан. На апошнім 169-м месцы знаходзіцца Эрытрэя. Найлепшыя паказчыкі ў галіне свабоды слова маюць Ісляндыя, Фінляндыя, Нарвэгія ды Эстонія.

# Шэйман больш не памочнік Аляксандра Лукашэнкі

Аляксандр Лукашэнка сваім указам унёс зьмены ў склад Рады бясьпекі. Віктара Шэйман застаўся на пасадзе дзяржсакратара Рады бясьпекі, але ўжо не займае пасаду памочніка прэзыдэнта па нацыянальнай бясьпецы. Цяпер у складзе Рады бясьпекі застаўся адзін памочнік прэзыдэнта па нацыянальнай бясьпецы – Віктар Лукашэнка, старэйшы сын Аляксандра Лукашэнкі.

На пачатку лістапада Аляксандар Лукашэнка вынес Віктару Шэйману вымову ў сувязі са справай былога міліцыянта Сяргейчыка, прызнанага судом сэрыйным забойцам.

Віктар Лукашэнка працуе памочнікам прэзыдэнта па нацыянальнай бясьпецы з пачатку 2005-га года. Сёлета ў студзені сын Лукашэнкі быў уведзены ў склад Рады бясьпекі.

Назіральнікі не выключаюць, што паміж малодшым Лукашэнкам і Віктарам Шэйманам вядзецца барацьба за ўплыў, якая апошнім часам абвастрылася.

# Одобрено бессрочное президентство Уго Чавеса

В Венесуэле одобрили бессрочное президентство Уго Чавеса. Такое решение принял парламент страны - Национальная ассамблея. Подавляющим большинством голосов был поддержан проект изменений венесуэльской конституции, согласно которому срок президентских полномочий будет существенно увеличен.

Референдум по реформе пройдет 2 декабря, и согласно опросам, граждане республики скорее всего проголосуют "за" изменения. Причина этого и в популярности Чавеса и в том, что пакет мер предполагает также сокращение рабочего дня и поддержку уличных торговцев.

Ранее в Каракасе прошла демонстрация противников изменения конституции - манифестация переросла в столкновения с полицией. А сегодня на столичных улицах митингуют уже сторонники Чавеса.

***Вести.Ru***

# Кітайскія грошы пойдуць на брудную вытворчасьць

Кітай дасьць Беларусі крэдыт паўмільярда даляраў. Адпаведны дакумэнт падпісалі сёньня ў Менску падчас візыту ў Беларусь кіраўніка кітайскага ўраду Вэнь Цзябао. Гэтыя грошы пойдуць на будаўніцтва новых лініяў вытворчасьці цэмэнту.

Былы міністар зьнешнеэканамічных сувязяў Беларусі Міхаіл Марыніч лічыць, што да пашырэньня вытворчасьці цэмэнту трэба ставіцца надзвычай асьцярожна:

"Гэта брудныя тэхналёгіі. Разьмяшчэньне такіх вытворчасьцяў заўжды экалягічна небясьпечнае. І перагружаць рэспубліку цэмэнтнымі вытворчасьцямі, на мой погляд, недальнабачна. Такую палітыку можна назваць неапраўданай.

Так, цяпер існуе бум будоўлі, а гэта значыць, патрэбны і цэмэнт. Але ж доўгатэрміновага прагнозу на тое, што такая колькасьць цэмэнту будзе і надалей патрэбная, няма.

І яшчэ — тыя краіны, дзе ўжо цяпер больш думаюць пра будучыню, стараюцца пазбаўляцца ад шкодных вытворчасьцяў. З тэрыторыі высокаразьвітых краінаў іх выносяць. Выносяць туды, дзе лішак рабочай сілы, дзе экалягічныя праблемы стаяць ня так востра".

Сёньня кітайскі бок паабяцаў яшчэ некалькі крэдытаў. Але яны значна меншыя. Прынамсі, міжурадавая дамова прадугледжвае крэдыт на 27 мільёнаў даляраў.

Для кітайскага прэм'ера Беларусь — трэцяя краіна, якую ён наведвае падчас гэтага візыту. Дагэтуль Вэнь Цзябао ўжо пабываў ва Ўзбэкістане і Туркмэністане. Там яго прымалі першыя асобы краінаў.

Аляксандар Лукашэнка таксама сустрэўся з пэкінскім госьцем. Беларускі лідэр падзякаваў кіраўніцтву Кітаю "за палітычную, эканамічную, дыпляматычную падтрымку Беларусі":

"За гэтыя паўтара дзясятка гадоў мы ішлі, не зьмяняючы курсу датычна Кітайскай Народнай Рэспублікі. І мабыць, у Кітаі ўсе пераканаліся ў тым, што Беларусь — надзейны сябар кітайскага народу і кітайскай дзяржавы. Беларусь будзе і надалей трымацца такога ж курсу".

Палітоляг, старшыня Беларускага шуманаўскага таварыства Ігар Лялькоў лічыць, што Аляксандар Лукашэнка такімі выказваньнямі арыентуецца адразу на два лягеры:

Я думаю, гэтыя дачыненьні выкарыстоўваюцца, з аднаго боку, для таго, каб паказаць Расеі, што мы можам абысьціся і бяз вас, што ў нас ёсьць іншыя сур'ёзныя хаўрусьнікі, кшталту Кітаю. А з другога боку, для ўнутранага пасланьня — маўляў, мы не адны ў сьвеце, нас падтрымліваюць, зноў жа, такія сур'ёзныя краіны, як Кітай.

Але, на маю думку, гэта ня больш за дэманстрацыю. Таму што эканамічныя дачыненьні з Кітаем могуць зрабіцца больш інтэнсіўнымі. Аднак ахілесава пята Беларусі — гэта энэрганосьбіты. А Кітай сам зьяўляецца найбуйнейшым у сьвеце спажыўцом энэрганосьбітаў".

**«ГОРЕЦКИЙ ВЫБОР»**
**Антибашистская газета.**
**№29, ноябрь 2007г.**
**Издатель и главный редактор - ЭДУАРД БРОКАРЕВ.**
**Brok61@yandex.ru**
**Т. 545 89 83. Издание непериодическое, выходит по мере возможности.**
**Тираж 299 экземпляров.**
**В номере использованы материалы сайтов:**
**http://www.svaboda.org/;**
**http://www.milinkevich.org/;**
**http://www.racyja.com/**
**http://www.uzgorak.na.by/**